# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 29 (1731) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 16 ЛІПЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.



*Беларусы з Польшчы, БССР і ЗША сустрэліся ў Беластоку і адспявалі разам „Люблю наш край, старонку гэту“.*

## Беларускія дні Беласточчыны

Не памыліўся б той, хто дні ад 18 да 26 чэрвеня 1989 года на Беласточчыне назваў беларускімі днямі. Характарызаваліся яны мноствам беларускіх імпрэз, якія ніколі яшчэ не праходзілі з такім, можна сказаць, міжнародным размахам.

А ўсё пачалося ад фэстына ў Гайнаўцы, які быў праведзены ў нядзелю 18 чэрвеня. Фэстын быў бы як фэстын, калі б не паявілася на ім першая неспадзеўка — упершыню прыехаў на Гайнаўскую зямлю, ды і наогул на Беласточчыну, беларускі танцавальны калектыў „Васілёк“ з Нью-Йорка пад кіраўніцтвам харэографа, прафесара хіміі Нью-йоркскага універсітэта Алы Орса-Рамана. „Васілёк“ на фэстыне станцаваў свае першыя танцы.

На фэстын у Гайнаўку прыехаў таксама госць „Нівы“, дацэнт Мінскага інстытута культуры з кафедры рэжысуры масавых свят Пётр Гуд, а таксама Сяргей Карніловіч з Кліўленда, нястомны збіральнік грошай на Беларускі музей у Гайнаўцы і друкарню для БГКТ.

22 чэрвеня надта ўрачыста адсвяткаваў сваё 25-годдзе бельскі калектыў „Васілёчкі“, якім многія гады кіруе Сяргей Лукашук. Прыехалі слаўныя ўжо (у нейкай меры прычыніліся да гэтага і мы) „Лявоны“ з Воранава Гродзенскай вобласці — самадзейны мастацкі калектыў на ўзроўні прафесіянальнага. Тут жа амерыканскі „Васілёк“ упершыню сустрэўся з бельскімі „Васілёчкамі“. На юбілеі прысутнічала таксама журналістка з мінскай газеты „Голас Радзімы“ Тацццяна Антонава, якая ад імя беларусаў з БССР перадала сардэчныя віншаванні юбілярам. Свята бельскіх „Васілёчкаў“ гучным рэхам адбілася па ўсёй Беласточчыне.

А ў ноч з 23 на 24 чэрвеня адбылося ў Белавежы грандыёзнае мерапрыемства, арганізаванае ўжо традыцыйна Беларускім таварыствам, — свята Купалля, на якое з'ехалася і сышлося мора людзей. Цэлы карагод беларускіх калектываў выступіў перад сабранымі, прэзентуючы ва ўсёй красе беларускую народную культуру: калектывы з Чыжоў, Рыбалаў, Гарадка, Гайнаўкі, а таксама „Васілёчкі“, „Дубіны“, амерыканскі „Васілёк“, воранаўскія „Лявоны“. Нягледзячы на позння, начныя гадзіны гэтага святкавання, людзі папрыходзілі нават з малымі дзецьмі, а пазнейшыя забавы пры вогнішчы ў пушчы напаміналі сваёй чароўнасцю міфічныя святы паган, для якіх кожнае дрэва магло быць богам. Цёпла рабілася на сэрцы ад гэтага яднання з прыродай.

Радасным фіналам беларускіх дзён можна было б назваць нядзельны дзень 25 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры. Хаця імпрэза пачалася а 14 гадзіне, у абедзенную пару, людзі ішлі і ішлі, паволі запаўняючы ўсе месцы амфітэатра. Мясцовыя беларусы ўжо прывыклі, што раз у год, летам, абавязкова трэба прыйсці ў амфітэатр, каб паслухаць выступленні беларускіх калектываў Беласточчыны. Сёлета, як ніколі дагэтуль, іх спадзяванні споўніліся. Змаглі яны паслухаць і ўбачыць на сцэне амфітэатра не толькі калектывы з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Рыбалаў, Дубіноў, але і з БССР і са Злучаных Штатаў. Так памаленьку нашыя святы, якія арганізуюцца тут, у Беластоку, Беларускім таварыствам,ператвараюцца ў фестываль. Несамавітае ўзрушэнне ахапіла слухачоў, калі ўсе беларусы разам — і з Польшчы, і з БССР. і са ЗША — адспявалі славутую песню „Люблю наш край“, якая ператварылася ўжо на Беласточчыне ў своеасаблівы беларускі гімн. І адной гэтай песняй, якой уторыла ўся публіка, выказана было так многа, што словы былі лішнія. Усім і так было ясна, чаму гэтыя людзі сустрэліся тут і дзеля чаго прысвяцілі пасію свайго жыцця.

У часе канцэрта ў амфітэатры была зроблена яшчэ адна добрая работа. Менавіта, на беларускі музей у Гайнаўцы было сабрана 200 тысяч злотых. Каб так на кожнай імпрэзе!

На свята беларускай культуры ў амфітэатры прыехалі так-

(Працяг на стар. 5)

 

# КАРЦІНКІ З ВЫСТАЎКІ





Бюро мастацкіх выставак і Беластоцкае аддзяленне сяброў таварыства Гродна і Вільні арганізавалі ў будынку „Арсенала" выстаўку мастацкіх прац Валянціны Скаржынскай, Юльяна Чэхуна і Марціна Чэхуна. Адкрылася яна 15 чэрвеня гэтага года.

Хто яны, гэтыя людзі? Перш за ўсё, гэта сям'я: маці, бацька і сын, якія жывуць і працуюць у Вільні.

Па-другое, усе яны гэта людзі, якія не заканчвалі ніякіх мастацкіх школ. Нягледзячы на гэта, маляванне сталася патрэбай іх сэрца (як бацькоў, так і іх 19-гадовага сына), хаця карціны іх паўстаюць у выніку цяжкой, мазолістай працы ў рамястве мастака.

З паказанага на выстаўцы ў беластоцкім „Арсенале" відаць, што найбольш фасцынуе мастакоў прырода. Далікатныя краявіды (малююць іх муж і жонка, і часамі нават цяжка адрозніць, чый гэта малюнак, хаця сын Марцін сцвярджае, што ён розніцу бачыць адразу), мілыя воку пералескі з азерцамі і самотнымі соснамі (жывы падвіленскі пейзаж) — усё гэта займае найбольш месца на выстаўцы.

Але Валянціна Скаржынская найбольш любіць маляваць кветкі, шмат такіх малюнкаў таксама было паказана на выстаўцы. Кветкі абсалютна розныя, але ёсць акрэсленыя колеры, напрыклад, фіялет, якія прысутнічаюць амаль на кожнай карцінцы.

Нездарма называю гэтыя працы карцінкамі. Усе яны невялічкага фармату, якраз такога, які стварае ўтульны настрой у хаце і разлічаны на кішэнь паспалітага пакупніка.

Не адрозніваюцца фарматам і працы, прадстаўленыя сынам Марцінам. Аднак жа тэма тут іншая. Хаця малюе ён і пейзаж, то відаць, што найбольш мілая сэрцу мастака урбаністыка, а дакладней краявіды старой Вільні. Хлапец заўважае і з піетызмам адлюстроўвае на палатне небанальныя віленскія і друскеніцкія закуткі, час якіх ужо мінае.

На першы погляд здаецца, што працы мастакоў паўтараюцца, або прынамсі падобныя адна на другую. На гэтакія закіды ў душы мастакоў нараджаецца бунт: кожны ж раз той самы пейзаж можна бачыць інакш! Усё залежыць ад стану духа чалавека, ад яго светаўспрымання, а, зрэшты, ці ж бывае два разы такі самы захад сонца...

Найчасцей пейзажы гэтыя, што згодна з традыцыяй народнага мастацтва, спакойныя, цёплыя, каляровыя. Няма тут цёмных, непрыемных колераў, якія б засмучалі чалавека, паказвалі непакой сённяшняга дня.

Ужо адбыліся тры сямейныя выстаўкі Чэхунаў (1980, 1984 і 1987 г.г.), у віленскім Салоне народных творцаў яны бяруць удзел у зборных выстаўках.

Сёлетняя іх выстаўка ў Беластоку — першая заграніччная выстаўка. На верхнім здымку даволі выразна відаць іх працы. На ніжнім: аўтарка ў размове з беластоцкім віцэ-ваяводам Ежы Слезакам.

**Ада Чачуга,**
**Фота Генрыка Рагазінскага**

P.S. З апошняй хвіліны: Марцін Чэхун выдатна здаў экзамены і паступіў на архітэктурны факультэт Беластоцкага політэхнічнага інстытута.

# З вандровак па роднай зямлі

## КЛЕНІКІ

Сярод пагоркаў Бельскага ўзвышша, пры старажытным шляху з Бельска ў Нараў (далей — у Гарадок, Свіслач і да Мінска) распалажана вёска Кленікі. Гэтае вялікае, складзенае з трох частак (Загаць, Клебаншчына і Кунэць) сяло мае за сабою шматвяковае, цікавае мінулае. У нашай вандроўцы затрымаемся найдаўжэй на Клебаншчыне. З яе Кленікі пачыналіся, тут была пабудавана царква і тут праходзілі важнейшыя падзеі ў жыцці сяла...

Імглой сівой даўніны абвеяны час заснавання Кленік. Яшчэ ў канцы сярэднявякоўя на вялікіх, цяпер бязлесных, прасторах Бельшчыны рассцілалася Бельская пушча. (Часткаю даўняй Бельскай пушчы з'яўляецца Лядская пушча — на поўдні спалучаецца з Белавежскай пушчай, а на поўначы, каля вёскі Рыбакі, затыкае даліны ракі Нарвы. Назва вёскі паходзіць ад вёскі Ляда — Ляды (цяпер у Кленіцкім прыходзе). Яшчэ ў XVIII ст. у Лядах знаходзілася важнае лясніцтва.

Абшар сённяшніх Кленік і ваколіц таксама быў парослы непраходным лесам. Старыя, сасновыя лясы на поўнач ад Кленік, каля Гародчына і Янава, гэта, мабыць, натуральныя астанкі Бельскай пушчы.

Калі тут з'явіўся першы чалавек, невядома. Аднак пра тое, што людзі пасяліліся тут здаўна, сведчаць курганы, раскінутыя навокал Кленік. У Лядах каля рэчкі Локніцы знаходзіцца 6 курганоў. Каля вёскі Гукавічы таксама 6 больших курганоў, а паблізу Козлікаў над Нарвай — чатыры земляныя насыпы... Паводле падання, у пушчы, дзе цяпер Кленікі, у XIII ст. пасяліліся манахі і тут на месцы цяперашняй царквы паставілі келлі.

Манахі найначай паходзілі з Кіева-Пячэрскай лаўры, а трапілі ў Бельскую пушчу, уцякаючы ад Залатой арды, якая пустошыла Кіеў і вялікія абшары Русі. З часам пасяленне пачалі называць ад келляў — Келейнікі. Назва гэтая, хаця ў скарочанай форме, дайшла да нашых дзён.

На жаль, няма ніякіх вядомых дакументаў, якія пацвердзілі б існаванне келляў ці больш арганізаванага манашаскага асяродзя ў Кленіках. Але нельга гэтага станоўча выключыць, улічваючы і тое, што ў недалёкай Нарве ў палове XVI ст. існаваў ужо манастыр (мо манахі з Кленік якраз далі пачатак манастыру ў Нарве?).

Першыя дакументаваныя звесткі пра Кленікі паходзяць з 1540 і 1545 гадоў. Былі яны тады каралеўскім сялом. Ужо ў 1560 годзе ў Кленіках існавала царква і прыход. У 1568 годзе кароль Зыгмунт Аўгуст надзяляе кленіцкай царкве кусок зямлі. І ў тым часе Кленікі атрымоўваюць другую назву — Зыгмунтова, якая нейкі час ужывалася побач са старою.

Неўзабаве прыходзіць перыяд некарысны для развіцця беларускага і ўкраінскага народаў, для праваслаўя. Новыя каралі забываюць пра дабрадзеянні папярэднікаў. Ад 1596 г. уводзіцца ў жыццё царкоўная унія. Большасць прыходаў Падляшша апынаецца па-за праваслаўем. Падобнае адбываецца і з прыходам у Кленіках.

Ад пачатку XVII ст. па XIX ст. кленіцкая царква з'яўляецца сведкам уводжання новых уніяцкіх звычаяў. Перыяд гэты праявіўся і ў царкоўным жыцці, і ва ўнутраным выглядзе храма.

Палавіна XVII ст. прыносіць вялікія нашчасці Бельскай зямлі. Шведская вайна пустошыць гарады і вёскі. Бяда не мінае і Кленікі. У выніку вайны знішчаная і апусцелая вёска амаль перастае існаваць. Але хутка, пасля „патопу", людзі вяртаюцца ў старыя, засядзелыя мясціны. У другой палове XVII ст. у Кленіках была пабудаваная новая царква, або старую, пацярпеўшую ў час шведскай вайны, дакладна рамантавалі.

У 1727 годзе, калі настаяцелем быў Мацвей Міхнякевіч, у кленіцкай царкве была праведзена „генеральная візітацыя". Апісанне, зробленае ў час візітацыі, дазваляе цяпер уявіць тадышні выгляд храма.

З апісання можна даведацца, што царква была драўляная, не старая яшчэ і даволі вялікая. Іканастас вылучаўся багаццем і прыгажосцю. Храм быў багаты многімі культавымі прадметамі і прыладамі. А сярод царкоўных кніг былі вельмі старыя, яшчэ рукапісныя экземпляры. Праўдападобна, было некалькі кніг з віленскай друкарні братоў Мамонічаў.

З апісання 1727 года даведваемся яшчэ пра фундуш караля Зыгмунта Аўгуста з 1568 г. і іншыя дабрадзеянні, між іншым, „Prezenta od Jaśnie bieł. ImC Pana Stefana Nikołaia Branickiego Stolnika Koronnego pod dato w Roku 1691..."

У XVIII ст. Кленікі належаць да фальварку ва Ужыках, пры рэчцы Арлянцы, і там жыхары адрабляюць паншчыну. Не абыходзіцца без канфліктаў між сялянамі і ўласнікамі зямлі. Захаваліся дакументы, якія гавораць аб канфліктах, між іншым, „relacja publikaty banicji Józefa Wasilewskiego podczaszego przemyskiego i poddanych wsi Leszczyny, Pilipki, Kliniki, nakazanej dekretem zaocznym sądu referendarskiego z 26 czerwca 1743 roku zapadłym z powództwa gromady wsi Treszczotki". Мабыць, былі гэта адгалоскі паўстання Вашчылы на ўсходняй Беларусі ў 1743 г.

Пад канец XVIII ст. Кленікі пераходзяць да маёнтку ў Лядах і новых яго ўласнікаў

(Працяг на стар. 4)



 

# ФЭСТЫН У ГАЙНАЎЦЫ

Фэстын адбыўся 18 чэрвеня гэтага года — якраз у дзень выбараў. Некаторыя ішлі на беларускае свята, ужо прагаласаваўшы, іншыя збіраліся аддаць свой голас пасля таго, як закончыцца фэстын. Фактам астаецца, што амфітэатр у Гайнаўцы запоўніўся людзьмі вельмі хутка.

Фэстын, прысвечаны 70-годдзю ўтварэння БССР, адкрыў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Ён шырока расказаў аб гэтай гадавіне, аб тым, як была ўстаноўлена БССР, не тоячы ні радасных, ні драматычных момантаў існавання Беларускай рэспублікі.

І можа, быў бы гэта фэстын зусім звычайны, традыцыйны, такі, як і многія папярэднія, каб не прыезд гасцей аж з-за акіяна. А было так.

У мінулым годзе па запрашэнні амерыканскіх і канадскіх беларусаў наш мастацкі калектыў „Дубіны" пабываў на гастролях у Паўночнай Амерыцы. Сёлета ж „Дубіны" вырашылі запрасіць 20-асабовую групу моладзі з амерыканскага гуртка „Васілёк" да сябе, на Беласточчыну. Тэрмін вызначылі якраз на Беларускія дні. „Васілёк" прыехаў з шырокай праграмай: не толькі, каб сустрэцца з тутэйшымі беларусамі, але і каб выступіць у Гайнаўцы, Бельску, Белавежы, Беластоку і паказаць, што і за акіянам беларусы не дрэмлюць. Тут, у Гайнаўцы, на правізорных дошках амфітэатра, адбылося іх першае выступленне. Станцавалі „Лявоніху", „Польку Янку" і дзявочы „Вяночак". Танцавалі яшчэ асцярожна, неяк нясмела. Вядома! — першы раз не сярод амерыканскіх беларусаў. Але трэма хутка мінула.

Аляксандр Баршчэўскі асабліва цёпла прывітаў групу беларускай моладзі са Злучаных Штатаў, згуртаваную ў калектыве „Васілёк". Прыехалі сюды, сказаў ён, не шкадуючы ні свайго часу, ні сваіх грошай, і праявілі гэтым самым вялікае пачуццё беларускасці. Сардэчна прывітаў таксама Веру Бартуль з Нью-Йорка і Сяргея Карніловіча з Полацка, што каля Клііўленда. Гэта яны, гэтыя людзі, збіраюць, жывучы „за вялікай вадой", найболыш долараў на Беларускі музей у Гайнаўцы. Ужо сабралі іх па некалькі тысяч, а ў апошні час збіраюць грошы на камп'ютэрную друкарню для БГКТ, якая мае знаходзіцца ў Беларускім музеі.

Усе сардэчна віталі беларусаў, якія ўпершыню ступілі на гайнаўскую зямлю. Пэўна, такія лозунгі, як „Парнас" вітае вас!" ці „Сардэчна вітаем на беларускім фэстыне!", адносіліся да ўсіх прыбыўшых у гайнаўскі амфітэатр, але ўжо лозунг, які трымалі БАСаўцы, меў выразнае і канкрэтнае прызначэнне: „Welcome to Сардэчна вітаем „Васілёк"!"



*Новы гайнаўскі сабор Св. Тройцы ўражвае сваёй прыгажосцю і сучаснасцю.*



*Праз сцэну прайшлі лепшыя мастацкія калектывы Гайнаўшчыны. Спявае калектыў з Чыжоў.*

Фэстын пераўтварыўся ў вялікае беларускае свята Гайнаўшчыны. Перад сабранымі выступілі найлепшыя яе калектывы: „Дубіны", маладзёжны калектыў з Гайнаўскага беларускага ліцэя, калектывы з Чыжоў, Дашоў і гайнаўскі мешаны хор, які працуе пры Гайнаўскім доме культуры, а кіруе ім у апошні час Анна Стрыха, якая даязджае сюды штотыдзень з Гродна. Вельмі вырас гэты калектыў! А, зрэшты, узнагароды, сабраныя на апошнім аглядзе „Беларуская песня '89", гавораць самі за сябе.

„Васілёк" танцаваў наперамен з выступленнямі „Дубіноў". То „Дубіны" ігралі і спявалі (а сапраўды лісткай была ў іх, як заўсёды, Галінка Якімюк), то танцаваў „Васілёк". Грымнулі апладысменты, калі беларускія хлопцы з другога паўшар'я Зямлі выйшлі на сцэну ў беларускіх нацыянальных касцюмах і пачалі танцаваць. Што і гаварыць, не бачылі дагэтуль гайнаўяне, каб

# ЮЛЬЯНА ВІТАН-ДУБЯЙКОЎСКАЯ
# СМЕРЦЬ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

— 6 —

— Бачу, што пан Луцкевіч, кажучы аба мне, не адзначыў, што я не каталічка, а евангеліцкага веравызнання.

— Што пані кажа! Я гэтага ніколі не дапушчаў! Пані з гэтакай любоўю апавядала аб кульце Вастрабрамскай.

— Так, таму што я вільнянка і вырасла пад Яе апекай, але гэта не змяняе маёй справы. Вось, кажучы аб фармальнасцях, я мела на ўвазе, што ксёндз меў бы са мной шмат клопату: з індультам, дыспенсам і не ведаю яшчэ з чым. На ўсё гэта трэба шмат часу. І, папраўдзе кажучы, на змене майго праўнага становішча, калі смерць мне адымае найдаражэйшага чалавека, мне не залежыць, таму што сямейныя справы, як і маёмасць адпавядаюць. Наагул тутака справа не ў маёй асобе. Я вельмі ўдзячна вашэці, што пан Луцкевіч атрымае св. сакраманты, калі Бог яго адкліча. Ён цяпер у такім радасным настроі, што, як казала мая сястра, прыпамінае дзіця, якое перапрасіла Айца і зноў здаволенае. Таму няхай з верай і надзеяй у Міласць Божую спакойна засне. Нічым не хачу зацямніць ягоны радасны настрой і супакой душы. Яшчэ раз дзякую вашэці за ўсё. Аднак мне час ісці да майго хворага. Да пабачэння!

Я бачыла, што добры ксёндз проста не ведае, што мне адказаць, пасля гэткага адкрыцця, што я не каталічка. Я ціха ўвайшла да Івана, ён драмаў, госці і гутаркі яго змучылі. Прачнуўшыся, ён спытаў мяне:

— А можа ты атрымала ліст ад Антона? Я так хачу яго пабачыць.

Потым прыпомніў гутаркі аб выхаванні моладзі і сказаў, што, як прыедзем у Вільню, трэба паруліпца аб тым, каб ува ўсіх гарадох Беларусі адчыніў беларускія сярэднія школы.

— Гэта можна будзе даручыць Тарашкевічу, ён можа стаць на чале асветнае працы.

— Ведаеш, Яська, Тараса не ахвяруйце паліпыцы, а захавайце для беларускае навукі, каб яго веда і здольнасці задарма не прапалі.

— Так, Юлінька, яму трэба стацца прафесарам...

Іван далей разважаў пра беларускія справы, а я старалася змяніць гутарку, бо ён надта ёю пераймаўся.

Але вось праз адчыненае вакно пачуўся звон на вячэрнюю малітву.

— Мне час дамоў, — сказала я, і ўзяўшы ягоныя рукі, пачала, як у мінулыя дні, адмаўляць пацеры.

Па дарозе дадому (я заўсёды вярталася пехатой, каб пашпацыраваць), я разважала прапанову добрага ксяндза. Божа мой, як гэта ўсхвалявала б беднага Івана, ён бы страціў сваю душэўную раўнавагу, ну і я не магла б гаварыць за слязьмі; нашто шлюбаваць адзін аднаму ў аблічы смерці, калі гэта мусіць быць святам жыцця. Мы ж

„амерыканцы“ танцавалі беларускія танцы.

Людзі не адчувалі ніякай адчужанасці. Прыйшлі на беларускі фэстын, каб паслухаць і паглядзець нашы мастацкія калектывы, прыгожа апранутыя, стройныя цыганкі з мностам упрыгожанняў у валасах. Прывялі з сабою малых дзетак, якіх трымалі каля сябе, аднак.

Праўду кажучы, іншыя дзеці адчувалі сябе намнога больш свабодна. Яны бегалі па пустой арэне, стараючыся, праўда, не перашкаджаць самадзейным артыстам. А вось некаторых маці садзілі проста на цёплым асфальце, бо сонца прыгравала моцна, і так яны там забаўляліся...

У перапынках паміж асобнымі выступленнямі яшчэ прэзентаваліся кандыдаты ў паслы (а мо хтось яшчэ загаласуе...), і людзі таксама віталі іх сардэчна.

Быў яшчэ адзін госць на фэстыне, і быў гэта госць з БССР. На пару дзён раней прыйшоў у нашу рэдакцыю Пётр Гуд з Мінскага інстытута культуры (дзе з'яўляецца выконваючым абавязкі загадчыка кафедры рэжысуры масавых свят). Быў, праўда, афіцыйным госцем „Кур'ера Падляшскага“, але як жа так: быць у Беластоку і не зайсці ў „Ніву“, да сваіх?! Даведаўшыся, што ў Гайнаўцы мае адбыцца такое святкаванне і мы збіраемся туды ехаць, загарэўся жаданнем паехаць з намі. Пасля сказаў нам, што быў гэта найцудоўнейшы дзень


*Дзеці найахвотней гулялі на асфальце арэны.*


*У спякотны дзень 18 чэрвеня людзі запоўнілі гайнаўскі амфітэатр.*


*Упершыню ступіла на Гайнаўскую зямлю моладзь з Нью-Йорка, згуртаваная ў калектыве „Васілёк“.*

з яго прабывання ў Польшчы. Быў захоплены фэстынам, новымі, цікавымі знаёмствамі, але асабліва быў захоплены грандыёзнай будоўляй Беларускага музея, на якую, як і кожны добры беларус, зрабіў немалы ўзнос.

Вось так выглядала беларускае свята ў Гайнаўцы.

І яшчэ адно. На гэты раз падвёў не толькі наш рэдакцыйны фотаапарат, ласкальна званы некаторымі „пентагончыкам“ (спецыяльнасць якога — падводзіць людзей), але і яго ўладальнік — наш рэдакцыйны рэпарцёр. Таму фотастужку ўдалося выпрасіць у амерыканскіх дзяўчат і хлопцаў: Паўлінка Сурвіла скрупулёзна здымала фэстын, трымаючы апарат на штатыве. Фактычна, задоўга прасіць не давялося, Паўлінка пазычыла стужку з прыемнасцю.

**Ада Чачуга**
**Фота Паўліны Сурвіла**

---

і так датрымалі слова, якое сабе далі; усе гэтыя гады Іван мне быў мілы, верны друг і я ж яму плаціла гэтым самым, дык няхай нам Бог будзе міласцівым суддзёй, ён адзін ведае, якое шчырае пачуццё жыве ў сэрцах нашых. Я памалілася ціха, супакоілася і пасля вячэры, як кожны вечар, села пісаць свой дзённік. Мне хацелася затрымаць словы і перажыванні гэтых апошніх дзён з Іванам, якія для мяне былі б найпрыгажэйшымі, калі б memento mori не ператварыла іх у найсумнейшыя.

У наступны дзень, 18-га жніўня, Ляля і я пайшлі ў санаторыю. Гэтыя шпацыры сярод цудоўнага краявіду квітнеючых, пахучых сенажацяў, супакойвалі боль душы. Мы назбіралі шмат кветак і з поўнымі рукамі апынуліся на карыдоры санаторыі. Нас спаткала сястра, папрасіла пачакаць, бо Іван мае госця — ксяндза. Ляля дала сястры частку кветак і сказала:

— Юлінька, гэты букет я дам ксяндзу, ён дбае аб Івана.

Нядоўга мы чакалі, ксёндз выйшаў, міла прывітаўся і, калі я пазнаёміла яго з Ляляй, сказаў:

— О, тутака яшчэ адна мілая вільнянка!

Ляля яму з падзякай за апеку над Іванам падала кветкі.

— Шчыра дзякую, я іх пастаўлю перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай.

Іван і нам і кветкам усцешыўся, ён удыхаў іх арамат. Ляля сказала, што і ксяндзу і сястры дала кветкі.

— Ты добра зрабіла, Ляля, яны ўсе для мяне гэткія спагадлівыя. Іван быў паважны, але ў добрым настроі. Ляля яго забаўляла, расказвала, як яна з панам Міхайлам і Астапам учора хадзіла далёка ў горы, як было весела, як яна тут паправілася і памацнела, што гэткі шпацыр яе не змучыў.

— Вось і я паправлюся і памацнею і тады з Юлінькай далучуся да вашай вясёлай кампаніі, — казаў Іван.

— Дзякуй Богу, — думала я, што ён не разумее, што ціха дагарае, як свяча перад іконай.

Прыйшоў доктар, ён нас прывітаў словамі:

— Спаткаў ксяндза з кветкамі, сказаў, што гэта падарунак мілых вільнянак, вось я і прыйшоў, каб іх прывітаць.

Ён цешыўся, што Ляля гэтак паправілася за гэтыя два месяцы. Мы гутарылі аб Вільні. Іван казаў, што разам выедзем, як толькі ён памацнее і набярэ здароўя, як Ляля. Доктар яго спагадліва слухаў, затым праверыў пульс, развітаўся і зрабіў мне знак, каб я за ім выйшла. На карыдоры ён мне сказаў:

— Мушу пані сказаць, што сілы нашага хворага з кожным днём таюць, яго падтрымлівае толькі радасць і надзея. Гэта для мяне як лекара рэдкі выпадак, каб гэтак цяжка хворы быў у такім добрым настроі і трэба пра гэтае дбаць, каб нічым яго не замуціць. Мне сказала сястра, што ўчора былі, акрамя паняў, яшчэ двух паноў. Без гутаркі аб бягучых палітычных справах, відаць, не абыйшлося, а для хворага гэта непатрэбнае хваляванне.

— Так, пане доктар, я прасіла абыходзіць усе тэмы, якія непакояць хворага. Я пастараюся, каб вылучыць усіх гасцей, досыць, калі я і сястра будзем яго наведваць; я добра разумею, што ўсе ўзрушанні непажаданыя.

*(Працяг будзе)*

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## УДЗЕЛЬНІЦЫ КОНКУРСУ „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ



Ася Барташэвіч з Кляшчэляў.



Кася Коршак з Храбалоў.

Фота Я. Чэрнякевіч.

### ЯПОНСКАЯ КАЗКА

Даўным-даўно жыў у вёсцы Асана стары дзед. Звалі яго Гаэмон. Гэта быў незвычайны стары: на правай шчацэ ў яго тырчаў гуз. Вялікі круглы гуз, падобны на добры яблык. Калі Гаэмон глядзеў налева, ён усё бачыў. А калі пазіраў направа, дык бачыў толькі свой гуз. Гэта яму вельмі не падабалася. А ў дадатак да ўсяго ад цяжкага гуза галава ў яго хілілася набок. Гэта таксама было нязручна.

Стары толькі і думаў, каб якнебудзь збавіцца ад гуза.

Вось пайшоў ён аднойчы ў лес на гару насячы сабе дроў. Раптам усчалася навальніца. Бліснула маланка, загрымеў гром, паліў дождж.

„Куды б гэта мне схавацца?" — падумаў стары і пачаў азірацца па баках. Непадалёку ён убачыў вялікае дуплаватае дрэва. Зарадаваўся стары, падбег да дрэва і залез у дупло.

А ўжо сцямнела. У гарах больш не стукалі сякеры дрывасекаў. Было зусім ціха. Толькі вецер з выццём праносіўся паўз дрэвы. Гаэмону зрабілася боязна. Ён скурчыўся ад страху на самым дне дупла, моцна зажмурыўся і пачаў мармытаць сам сабе: „Кувабара, кувабара" („Адвядзі, адвядзі").

Апоўначы, калі вецер сціх і кроплі дажджу падалі ўсё радзей і радзей, з гары пачуўся нейкі шум, моцны тупат і галасы.

Сядзець у дупле старому было вельмі сумна, і ён дужа ўзрадаваўся галасам. Расплюш-




чыў вочы, падняўся на ўвесь рост і асцярожна высунуў галаву з дупла.

Што ж ён убачыў?

З гары да дрэва ішлі не людзі, а горныя страшыдлы. Чырвоныя, сінія, зялёныя. У каго былі тры вокі, у каго два насы, у каго рог на ілбе, у каго рот да вушэй. А толькі такога гуза, як у Гаэмона, не мела ніводнае страшыдла.

Гаэмон яшчэ больш спужаўся. Ён прысеў у дупле і гэтак скурчыўся, што зрабіўся траха не меншы за свой гуз.

Тым часам страшыдлы з выццём і рыкам падышлі да самага дрэва і пачалі садзіцца на траве. Галоўнае страшыдла села пасярэдзіне, а па баках паўкругам паселі меншыя...

Раптам адно маленькае страшыдла падхапілася, выбегла на сярэдзіну круга і пайшло ў скокі. За ім прыпусцілі і астатнія. Адны скакалі лепей, другія крыху горш. Калі скокі скончыліся, галоўнае страшыдла з ухвалою кіўнула галавой і сказала:

— Добра, вельмі добра! У нас сёння весела. Ды толькі вы скачаце аднолькава. От каб хто-небудзь паскакаў інакш, па-новаму!

Стары ўсё гэта чуў. Ён спачатку сядзеў у дупле і баяўся расплюшчыць вочы. Але потым яго пачала браць цікаўнасць. Ён асцярожна прыўзняўся і трошачкі высунуў галаву з дупла, так, што толькі яго левае вока было над дуплом, а правае вока, нос і гуз заставаліся ў дуп-

(Працяг на стар. 10)

Пятро Сушко

### КУРАЧКІ ЧУБАТКІ ПРЫГОДЫ

*Пра бабульчыну Чубатку*
*Міхасю і Вераніцы*
*Расказаў*
*Пасля заняткаў*
*Ясь,*
*Вярнуўшыся ў сталіцу:*
*„Разумееш,*
*Мой ты братка,*
*Пачалося ўсё*
*З таго,*
*Што бабульчына Чубатка*
*Раптам знікла.*
*У каго*
*Ні пыталася бабуля,*
*Анічога ўсе*
*Не чулі*
*І не ведаў*
*Аніхто,*
*Што сказаць,*
*Параіць што.*
*— Мо сцягнуў Чубатку*
*Тхор? —*
*Меркаваў сусед Рыгор.*
*— Не магла ліса нібыта? —*
*Адгукнуўся*
*Дзед Мікіта.*
*— Мо сусед які схапіў? —*
*Паштальён Змітрок*
*Пакпіў.*
*— Не кажы, Змітрок, пустое.*
*Абражаць людзей*
*Не варта.*
*Не патрэбна ім*
*Чужое, —*
*Кажа хлопцу*
*Цётка Марта.*
*Паштальён*
*Сціхае сціпла,*
*Сам*
*Сваю памылку бачыць,*
*Кажа*
*Голасам асіплым:*
*— Вінават,*
*Прашу прабачыць.*

*То жартоўна,*
*То сур'ёзна*
*Так між працай*
*Рана,*
*Позна*
*Гаманіла ўсё сяло,*
*А Чубаткі —*
*Не было.*

*Цёплых дзён*
*Прайшло нямала,*
*Канюшына зацвітала.*

*Забываць*
*Бабулька стала,*
*Курачка якой была.*
*Толькі ты*
*Мне ўсё ж павер,*
*Пасля дожджыку ў чацвер*
*З-пад плятня,*
*З густой травы,*



*Са стрыкучай крапівы*
*Выйшла*
*Бабчына Чубатка,*
*А за ёю —*
*Куранятکі:*
*Жоўтых шэсць,*
*Пяцёра белых,*
*Трое чорных,*
*Двое шэрых,*
*Рудаваценькае*
*І стракаценькае.*
*Бабка лічыць*
*Куранятак,*
*Сыпле курачцы*

(Працяг на стар. 10)

# ГУЗ

(Працяг са стар. 9)

ле. А калі Гаэмон убачыў, як весела страшыдлы скачуць, ён зусім забыўся на страх. Ногі ў яго самі так і задрыгалі. Але ў дупле было цесна, там не тое што скакаць, а і павярнуцца было нельга.

І раптам Гаэмон пачуў, як галоўнае страшыдла прамовіла: „От, каб хто-небудзь паскакаў інакш, па-новаму!“ Тут старому страшэнна захацелася выскачыць з дупла і паскакаць на волі. Не, боязна! А раптам з'ядуць?

Пакуль ён так разважаў, страшыдлы ўзяліся ўсе разам плясакць у ладкі, ды так дружна і весела, што Гаэмон не мог больш трываць.

— Эх, чаго баяцца? Паскачу апошні раз, а там хай сабе і з'ядуць!

Ён абаперся рукою на край дупла, перакінуў нагу і выскачыў якраз на сярэдзіну круга.

Страшыдлы ажно спалохаліся. Паўсхопліваліся з месцаў, перапужаліся:

— Што такое?

— Што здарылася?

—Чалавек!

А стары, нікога і нічога не слухаючы, кінуўся ў скокі. То падскочыць, то прыгнецца, то прысядзе, то выпрастаецца, то направа забяжыць, то налева адыдзецца, то нібы ваўчок закруціцца. Скача і пакрэхтвае:

— Э-э, кара, э, кара...

Страшыдлы загледзеліся на яго, пачалі прытупваць нагамі, прыцмокваць языком, пляскаць у ладкі.

— Здорава!

— Хвацка!

Калі Гаэмон нарэшце выбіўся з сілы і спыніўся, галоўнае страшыдла сказала:

— Ото дзякуй, стары! Мы самі любім паскакаць, такіх скокаў яшчэ ніколі не бачылі. Прыходзь заўтра ўвечары, паскачы нам яшчэ раз.

Гаэмон толькі ўсміхнуўся:

— Добра! Я і без вашага запрашэння прыйду. Сёння, шчыра кажучы, я не збіраўся скакаць, не падрыхтаваўся. А ўжо назаўтра я ўспомню ўсё, што скакаў, як быў малады.

Тут адно страшыдла, яно сядзела справа ад галоўнага, сказала:

— А можа, стары надумаўся нас ашукаць і не прыйдзе? Трэба ўзяць у яго што-небудзь у заклад.

Галоўнае страшыдла кіўнула галавою:

— І праўда, трэба.

— Але што ж у яго ўзяць?

Страшыдлы зашумелі. Адны крычалі: „Капялюш!“, а другія: „Сякеру!“

Але галоўнае страшыдла падняло руку і, калі ўсе сціхлі, сказала:

— Лепш за ўсё ўзяць у яго гуз са шчакі. Я не раз бачыў людзей і ведаю, што такога гуза ні ў кога няма. Мабыць гэта вельмі каштоўная рэч.

(Працяг у наступным нумары)

## ПРЫГОДЫ КУРАЧКІ...

(Працяг са стар. 9)

*Зярнятак,*
*Куранятам —*
*Тваражок,*
*Крышыць*
*Мяккі піражок.*
*—Цыпу-цыпу!*
*Пуль-пуль-пуль!*
*Узяліся вы*
*Адкуль,*
*Пушысценькія,*
*Галасісценькія?*
*А Чубатка*
*„Квох“ ды „Квох“:*
*— Дзякуй, бабка,*
*За пірог.*
*Прыляцела тут*
*Сарока*
*З чорнай дзюбай,*
*З белым бокам,*
*Смела села*
*На страсе*
*І хвастом сваім*
*Трасе.*
*Папярэдзіла Чубатка:*
*— Небяспека, куранятқі!*
*За імгненняў*
*Пяць ці сем*
*З відавоку*
*Зніклі ўсе:*
*Жоўтых шэсць,*
*Пяцёра белых,*
*Трое чорных,*
*Двое шэрых,*
*Рудаваценькае*
*І стракаценькае.*
*Гучна бабка*
*Плешча ў ладкі:*
*— Кыш,*
*Сарока-супастатка!*
*Хоць сарока*
*Не хацела,*
*Ды ўзнялася,*
*Паляцела,*
*Азіраецца Чубатка,*
*Кліча:*
*— Дзе вы, куранятқі?*
*Куранятқі каля брамы*
*Зноў збягаюцца*
*Да мамы:*
*Жоўтых шэсць,*
*Пяцёра белых,*
*Трое чорных,*
*Двое шэрых,*
*Рудаваценькае*
*І стракаценькае.*
*Засталіся куранятқі*
*Падрастаць,*
*Дзяўбуць зярняткі...*
*Ну, а я вось,*
*Мой ты братка,*
*Зноў вярнуўся*
*На занятқі“.*

## Вершы Віктара Шведа

### ВЫХОДЗЯЦЬ ЗУБЫ

**— У дачушкі Любы, —**
**Ганарыцца мама, —**
**Ужо выходзяць зубы**
**Цэлымі радамі.**

**— Спадчына па дзеду, —**
**Азваўся Валодзя, —**
**У яго без следу**
**Зубы ўсе выходзяць!**

### КОТ ЦЯГНЕ ХВОСТ

**— З цябе лезе дурнага, —**
**Тата лае Колю. —**
**Не цягні за хвост ката,**
**Ён мяўчыць ад болю!**

**— Я скажу табе наўпрост, —**
**Паясняе Колька. —**
**Гэта ж кот свой цягне хвост,**
**Я трымаю толькі.**

### КРЫКУН

**— Крыклівага ты маеш брата,**
**Крык яму толькі ў галаве.**
**Крыкам напоўнілася хата,**
**Ляжыць малы і ўсё раве!**

**— Калі б ты лысы быў,**
**баззубы,**
**І не хадзіў, не размаўляў,**
**Тады б, напэўна, дружа любы,**
**І ты б ад роспачы крычаў.**

### СТРАТУ ВЫЛІЧЫ З ПАСАГУ

**Валя прызналася адразу,**
**Калі дамоў вярнуўся тата:**
**— Крыштальную разбіла вазу,**
**А гэта ж, безумоўна, страта.**

**Без пакарання ёсць тут**
**выйсце:**
**Вазьмі ты толькі пад увагу,**
**Што можаш вылічыць калісьці**
**Мне страту гэтую з пасагу.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 624630, Свердловская обл., г. Алапаевск, ул. Панфиловцев, 63. Вдовиной Наташе (11 год).

* ✲ *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 62, кв. 217. Бандарэнка Дзмітрыю. (12 год).

* ✲ *

БССР 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае. зав. Карбышава 63, кв. 2. Чупракова Таня. Перайшла ў шосты клас.

## ЗАГАДКІ

Не чалавек, але працуе,
Іграе, піша, рамантуе.
І фрэзероўшчык ён,
І токар,
Здзіўляе ўсіх
Сваёй работай.

* ✲ *

Хто са мною пасябруе,
Той ужо не засумуе.
Языка хоць і не маю,
А пра ўсё апавядаю.

* ✲ *

Белы дамок
У кватэры стаіць.
У ім круглы год
Дзед Мароз
То буркоча, то спіць.

* ✲ *

Хобат мае, ды не слон.
Па балоце ходзіць ён.
След глыбокі пакідае,
І балота прападае.

* ✲ *

Вечна — беланогая,
Ды сукенкі ўсё мяняе:
То яна зялёная,
То празрыста-залатая.
А зімовым ясным днём
Адбівае серабром.

* ✲ *

Доўгая, шырокая каса
Аж да неба дарасла.

**Міхась Пазнякоў**

Адгадкі: робат, кніга, халадзільнік, экскаватар, бяроза, дарога.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✲ *

Юрка згубіў дзесяць злотых. Было цёмна. На вуглу вуліцы вісела лямпа. Дзядзька Максім, убачыўшы, як Юрка нешта шукае, запытаў:

— Ты нешта згубіў?

— Так, дзесяць злотых.

— А дзе?

— Метраў сто адсюль.

— Дык чаму ж тут шукаеш?

— Бо тут відна! — адказвае Юрка.

* ✲ *

Прыходзіць Янка ў кнігарню.

— Дайце мне „Трох мушкецёраў“, — просіць.

— На жаль, няма гэтай кніжкі, — адказвае прадаўшчыца.

— Дык дайце хоць аднаго, — просіць хлопчык.

## АДГАДАНКА

Што на гэтай карцінцы няправільна? Знайдзі 5 памылак мастака.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok. ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Адчарціць** — выгнаць чарцей.
**Адшапацець** — скінуць шапку.
**Адшараваць** — скінуць шаравары.
**Ажарабіцца** — змагацца за агонь.
**Акаваны** — абліты кавай.
**Акаталічыць** — зрабіць спісак катоў.
**Акружыць** — абсадзіць ружамі.
**Акрэслена** — абстаўлена крэсламі.
**Акустык** — той, хто хаваецца ў кустах.
**Аленіна** — надзвычайная Ніна.
**Алешына** — надзвычайная шына.
**Аманіт** — ілгун.
**Амарант** — летуценнік (той, хто марыць).
**Аматар** — барэц на маце.
**Апалячаны** — абдзелены зямлёй, полем.
**Апараны** — ажэнены.
**Апладзіраваць** — вырошчваць пляды.
**Аплачаны** — выплаканы.
**Апякун** — агонь.
**Апякунка** — крапіва.

„ядань"

* * *

Свенсан іграў у гольф.

— Чорт вазьмі! Зноў прамахнуўся! — лаяўся ён, калі яму не шанцавала.

— Нельга так лаяцца. Гасподзь пачуе і паразіць вас нябеснай маланкай! — павучальна сказаў, знайшоўшыся побач, пастар.

І сапраўды бліснула маланка і паразіла... пастара.

— Чорт вазьмі! Прамахнуўся! — прагучэла з нябёс...

* * *

— Джон, — сказала жонка, — я хацела б пагаварыць з табою аб многіх рэчах.

— Добра, — адказаў уздыхаючы муж. — Відавочна, ты хочаш пагаварыць са мною аб рэчах, каторых у цябе няма.

### НЕ ПАЗНАЛА

— Які твой выгляд страшны, Лёня!
Ды растлумач ты ў чым прычына.
Мо звер напаў які шалёны?
А можа трапіў пад машыну?

— Прычына тая — смех скрозь слёзы.
Свая сабака пакусала.
Дадому я прыйшоў цвярозы,
Яна мяне і не пазнала...

**Васіль Гедзька**





## АФАРЫЗМЫ

*

Ці Расія была створана для чыноўнікаў, ці чыноўнікі для Расіі?

*

Усе нашыя рэформы зводзяцца па сутнасці да множання бюракратаў.

*

За мае погляды ўзнагарод не даюць.

*

Прызнаю існаванне матэрыі, але не ведаю ці матэрыя з'яўляецца матэрыяльнай.

*

Самастойнасць і пачуццё ўласнай годнасці можна дасягнуць толькі працай і толькі ў барацьбе.

**Фёдар Дастаеўскі**

## ГУМАР З ГАБРАВА

Габраўянін вырашыў будаваць сабе гараж. Пайшоў да майстра і пачаў з ім абмяркоўваць варункі працы.

— На працягу дзесяці дзён пабудую гараж, — сказаў майстар. — За кожны працадзень заплаціце мне па пяць леваў, а майму памочніку — па два.

— Памочніка не трэба, я сам буду памагаць.

Праз дзесяць дзён гараж быў гатовы. Калі дайшло да заплаты, габраўянін вылічыў муляру з належных яму грошай дзесяць леваў.

— За што тыя прэтэнзіі? — здзіўлены, пытаецца раззлаваная майстра. — Я ж не задарма дапамагаў вам у рабоце!

*

У адну з габроўскіх вёсак прыехала міліцыя, каб праверыць, ці не гоняць там самагонку. Уся вёска раптам апусташэла. Нечаканых гасцей прывітаў толькі нейкі дзядок, выразна задаволены іх прыездам:

— Ідзіце сюды, ідзіце, каханенькія, і пашукайце добра ў гэтай хаце!

Міліцыянеры пайшлі за старым, доўга шукалі, заглядалі дасвоўна ў кожную дзірку, але нічога не знайшлі.

— А няхай гэта чэрці! — раззлаваўся дзед. — Думаў, што можа вы знойдзеце самагонку, якую перада мною схавала мая старая!

*

Калі памерла маці, сын запаліў свечку і паставіў яе ў галаве нябожчыцы. Праз хвіліну падняўся заплаканы бацька, падышоў да памершай, згасіў свечку і сказаў:

— Зберажы рэшту да майго пахавання, сынок.

*

Да габроўскай сям'і прыехаў аднойчы ў госці пляменнік. На снеданне гаспадыня зварыла адно яйка і пачаставала ім госця. Маленькі сынок гаспадароў жадна ўглядаўся ў яйка.

— Не глядзі так прагна, дзіцятка, — кажа маці. — Дзядзька не воўк, не з'есць усяго яйка. Аставіць і для цябе.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, КАЛІ Ж ТОЙ ВЕЧАР
(народная)

Ой, калі ж той вечар
Ды павечарэе?*

Тады ж маё сэрца
Ды й павесялее!

Ой, калі ж то сонца
Ды за хмару зыйдзе?

Ой, калі ж той мілы
Ды да мяне прыйдзе?

Ой, хоць не да мяне,
То да мае хаты.

Ой, хоць не да хаты,
То к новай каморы.

У камору ўпускала,
Ціхенька ступала

Ціхенька ступала,
Мілага пытала:

— Ой, скажы мне, мілы,
Ці ты верна любіш?

Ці ты верна любіш,
Ці з мяне смяешся?

Да другой ты ходзіш,
Мне не прызнаешся?

— Люблю, не таюся,
Сватаці баюся.

* Кожныя два радкі паўтараюцца.







Два мужчыны, якія нядаўна пажаніліся, размаўляюць паміж сабою:

— Славік, той мае добрую жонку, — уздыхае адзін, — жо два разы бачыў, як яна дапамагала яму скрэбці бульбу.

*

— Як гэта здарылася, што вы апарылі сабе вуха?

— Я прасавала бялізну, пане доктар, і якраз зазваніў тэлефон...





**Жанчыны часта пагарджаюць тымі, што іх кахаюць, кахаючы тых, што пагарджаюць імі.**